


*Спраўна ездзяць самаробныя лыжы, што Войтку Садкоўскаму з Войнаўцаў, каля Саколкі, выстругаў з бярозавых дошак яго тата.*

*Фота М. Гайдука.*

№ 8 (1176) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 24.II.1980 г.

**В. Бахрэўскі**

# Палац Золушкі

Другакласніку Змітраку паставілі на ўроку працы пяцёрку. Ён са свайго „Канструктара“ склаў два касмічныя караблі і зрабіў стыкоўку.

На перапынку, разглядаючы Змітраковыя караблі, дзеці загаварылі аб сваіх любімых цацках.

— У мяне была такая гумавая гуска, — сказала Вера. — Мама казала, што я без яе нават заснуць не магла. Калі мне было горача, яна мяне халадзіла, а калі было холадна, яна мяне цяпліла.

— Ацяпляла, — паправіў Веру Змітрок.

— Не ацяпляла — гэта хаты ацяпляюць, — умяшаўся ў размову Шурык. — Твая гуска цябе грэла.

— А ты не лезь! — раззлавалася Вера. — Падумаеш, разумны!

— Гуска — гэта не вельмі цікава, — сказала Маня. — У мяне, напрыклад, быў луназод і розныя машыны, якія аб'язджаюць перашкоды, чыгунка. І ўяўляеце, ад яе засталіся толькі пярэднія колы паравоза...

— А вось у мяне, — крыкнуў Шурык, гаварылі ўжо ўсе, і ніхто ўжо нікога не слухаў. — А ў мяне быў палац. З сапраўднага перламутра. Праз яго маленькія вокны былі відаць усе пакоі. А ў дзвярах стаяла Золушка на адной назе, і на гэтай назе быў надзеты крыштальны чаравічак.

— Ого! — здзівіўся Змітрок. — І ты яго таксама?

— Што?

— Ну, вядома, даламаў.

— Эх ты, Шурык, — накінулася на яго Вера. — Такую прыгажосць знішчыць. Ды ў мяне ні адна пылінка не села б на такі палац. Не, хлопцы, вы людзі без сэрца!

— Гэта праўда, — сумна ўздыхнуў Шурык. — Мне гэты палац тата падарыў, а я не збярог. Калі свяціла сонца, кожная вежа ззяла, і ўсе вокны ззялі, і асабліва крыштальны чаравічак.

Шурык расказваў, і вочы яго рабіліся ўсё большыя і большыя, а вось у Мані наадварот, звужваліся і зрабіліся, як шчылінкі.



— Ён усё маніць! — сказала Маня. — Па-першае, Шурык, у цябе няма бацькі. А па-другое, такіх цацак не прадукуюць. Бо мне яе напэўна купілі б.

Шурык пабялеў, як дарослы, устаў з парты, а потым сеў. Дзеці глядзелі то на яго, то на Маню і потым пачалі адварочвацца, каб не глядзець.

— Я праўду кажу! — узлавалася Маня. — Я ж іх суседка. У Шурыка няма бацькі. Я ані разу яго не бачыла.

— І не ўбачыш! — Шурык падскочыў з-за парты. — Мой тата — палярнік, — крыкнуў Шурык. — А палац Золушкі ён прывёз мне з Антарктыды. Зразумелі?

Змітрок, слухаючы Шурыка, разглядаў свае чаравікі. Ён не ўмеў глядзець людзям у вочы, калі яны гаварылі няпраўду. Ён нават на сваю маму не глядзіць, калі яна расказвае гасцям, што іх дываны ад бабулі. Бабуля жыве на вёсцы, у яе няма ніводнага дывана, толькі палінялыя ходнікі.

Не змог Змітрок і на Шурыка глядзець. У Шурыкавага бацькі другая сям'я, у той сям'і — двайчкі, яны на будучы год у школу пойдуць.

Нехта крануў Змітрака за плячо. Шурык!

— Справа ёсць! — сказаў ён Змітраку.

Яны выйшлі ў калідор. Шурык пабег пад сходы: значыць, справа сур'ёзная.

— Чаго? — спытаў Змітрок.

— Ды нічога, — адказаў Шурык. — Давай абдымемся. Па-мужчынску.

Яны абняліся. Шурык быў цёплы, як малодшы брат.

Празвінеў званок. Увайшла настаўніца. Паглядзела на дзяцей.

— Што гэта вы такія ўзбуджаныя. Ідаць, пасля ўрока працы. Супакойцеся. Сёння мы будзем чытаць „Казку пра смелага зайца — доўгія вушы, касыя вочы, кароткі хвост". Шурык, чытай першы.

Шурык маўчаў. Усе на яго паглядзелі. Ён сядзеў сагнуўшыся, як дзядуля. Шыю схаваў у плечы, галаву схіліў набок і нешта разглядваў на пустой дошцы.

— Шурык! — здзівілася настаўніца. — Вярніся са сваёй мары, мы чакаем цябе ў класе.

Шурык пачуў, ускочыў.

— Чытаць?

— Чытай!

— Пра смелага зайца?

— Пра смелага зайца.

— А вы ведаеце, я бачыў у заапарку, калі яшчэ зусім малы быў, але я гэта добра памятаю — у адной клетцы жылі ваўкі і заяц. Чэснае слова, так было.

Вочы ў Шурыка зноў блішчэлі.

— Ён праўду кажа. Так можа быць! — ускочыў Змітрок.

**Паўлюк Пранузa**

## РЫГОРКА

*У Рыгоркі вочы-зоркі:*
*Ён дамоў прынёс пяцёркі.*
*Адпачыў, падсілкаваўся,*
*Сеў за стол, за ўрокі ўзяўся.*
*За акном, як пух таполі,*
*Церушыў сняжок паволі.*
*І шаптаў ён: „Эх, Рыгорка,*
*Пэўна ты забыў пра горку?"*
*А хлапчук і не зважае:*
*Піша, думае, рашае.*
*Скончыў працу — і за санкі.*
*— Вось калі ў мяне гулянка.*



# Розуму трэба вучыцца

**(СЛАВЕНСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА)**

У даўнія-даўнія часы жыў адзін кароль. Вырашыў ён выгнаць са свайго каралеўства ўсіх старых людзей, якія ўжо не мелі сілы працаваць.

Усе выканалі загад караля пад страхам смерці. Толькі адзін хлапец Пятро не падпарадкаваўся. Ён вельмі ж любіў свайго старога бацьку і — што будзе, тое будзе! — не выгнаў яго з дому. А калі каралеўскія слугі паявіліся ў іхнім сяле, ён схаваў бацьку на заднім двары пад вялікім цэбрам і насіў яму патаемна хлеб.

У караля таго была цудоўная дачка, але не было ніводнага сына. Каму пакінуць каралеўства пасля смерці? І вырашыў кароль выдаць сваю дачку замуж за самага разумнага хлапца ў каралеўстве. Загадаў ён сабраць усіх хлопцаў і аб'явіў ім, што яны павінны адказаць яму на тры пытанні.

— Заўтра, — сказаў кароль, — усе збярэцеся ля палаца на досвітку. Я хачу ведаць, хто першы заўважыць узыход сонца.

Дома Пятро ўсё расказаў бацьку і папрасіў у яго рады.

— Дарагі сын мой, — сказаў стары бацька, — гэта не такая ўжо цяжкая справа. Заўтра ўсе будуць глядзець у бок усходу. А ты павярніся ў другі бок і глядзі на самую высокую гару. Сонца яшчэ не пакажацца над гарызонтам, але ўжо асвятліць вяршыню гары. Тады ты і аб'явіш раней за ўсіх узыход сонца.

Як стары сказаў, так Пятро і зрабіў. На другі дзень сышліся ўсе юнакі да палаца, павярнуліся ў бок усходу і давай глядзець ва ўсе вочы!

А Пятро сеў на камень да ўсіх спіной і паглядвае на вяршыню самай высокай гары, чакае, калі слізне па ёй першы промень яшчэ не ўзышоўшага над гарызонтам сонца.

Усе пасмейваліся з яго, але калі заружавела вяршыня самай высокай гары, Пятро першы крыкнуў:

— Кароль, сонца ўзыходзіць!

Здзівіўся кароль яго розуму, пахваліў і даў наступнае заданне: з'явіцца заўтра ў палац не босым і не абутым.

Пайшоў Пятро да свайго старога бацькі па параду.

— Гэта простая задача, — сказаў стары. — Але не кожны яе зможа рашыць. Адны прыдуць у шкарпэтках, іншыя — у адным боце. А ты адарві падэшвы ад сваіх ботаў — і будзеш не абуты і не босы.

Так і зрабіў Пятро — прыйшоў у палац у ботах без падэшваў. Усе іншыя так прыбраліся, так абуліся, што ад смеху і стрымацца нельга. Той дзіравыя шкарпэткі нацягнуў, пятка голая, а пальцы тырчаць. Гэты боты шылам пракалоў — так і ходзіць з дзіравымі халявамі. Стаяць яны, голымі пяткамі паблісківаюць, пальцамі ў дзірках варушаць.

Убачыўшы Пятра ў ботах, усе пачалі пасмейвацца з яго, але калі ён падняў нагу і паказаў, што стаіць на зямлі босы, хоць і абуты

ў боты, кароль здзівіўся яго знаходлівасці.

— Малайчына, — сказаў кароль, — ты прыйшоў не босы і не абуты.

І задаў ім кароль апошнюю задачу: прыйсці ў палац з самай лепшай кветкай у капелюшы.

Ішоў Пятро дадому і зрываў па дарозе кветкі. Можа, гэты, рамонак, найлепшая кветка? А, можа, званочак? Або блакітная незабудка? А, можа, садовая ружа? Так і не змог ён вырашыць, якая ж кветка самая лепшая на свеце.

—Дарагі мой сын, — сказаў стары бацька, — доўга я жыў на свеце і ведаю, што няма лепшай кветкі, чым пшанічны колас. Няма лепшага саду, чым пшанічнае поле, калі каласы на ім калышуцца ад лёгкага ветру. Няма лепшага арамату, чым пах свежага хлеба, вынятага з печы. Няма лепшага семені, чым пшанічнае зерне. Няма лепшага занятку, чым гадаваць найлепшую кветку на свеце — пшанічны колас. Усадзі яго за стужку капелюша і смела ідзі ў палац караля.



Так Пятро і зрабіў. Сабраліся на наступны дзень юнакі ля палаца. Якіх толькі кветак не было на капелюшах — і ляўконіі, і рэзеда, і флоксы, і гладыёлусы. І ўсе смяяліся з Пятра, у капелюшы якога тырчаў скромны каласок пшаніцы.

Але кароль паклікаў да сябе Пятра і сказаў:

— Ты прынёс найлепшую кветку на свеце. Усе мае заданні ты выканаў вельмі добра. І я аддаю табе, разумны хлапец, сваю дачку ў жонкі. Але скажы мне, адкуль у цябе ў твае гады столькі розуму?

Пятро разгубіўся. Ён не ведаў, што яму адказаць. Бо калі ён скажа праўду, дык кароль прагоніць яго бацьку, а яго самога пакарае. Але і маніць Пятро не ўмеў.

— Ваша вялікасць,— сказаў ён, — я сказаў бы вам усю праўду, але баюся, што нічога добрага з гэтага не выйдзе — вы загадаеце мяне пакараць.

— Не бойся, — адказаў кароль, — я памілую цябе.

І тады Пятро рашыўся:

— Увесь розум, — сказаў ён, — падораны мне маім бацькам. Я не выканаў вашага загаду і не прагнаў бацьку з дому, а схаваў яго. Не праганяйце майго бацьку, ваша вялікасць. Ён, вядома, стары, і ўжо не можа працаваць. Але я буду працаваць за двух — за яго і за сябе.

Пачуў кароль гэтыя словы і задумаўся. Зразумеў ён, што разам са старымі прагнаў ён са свайго каралеўства адно з самых вялікіх багаццяў — розум.

І загадаў кароль вярнуць усіх старых людзей у каралеўства. А сынам і дочкам загадаў любіць і шанаваць сваіх бацькоў, дзядуляў і бабуль. Пытаць у іх парады, як гэта рабіў Пятро, і набірацца розуму.




## ЯК БЕРАГЧЫ ЗУБЫ

Што рабіць, каб зберагчы зубы? Пачнем, безумоўна, з чысткі зубоў. Для чаго яна так патрэбна? Справа ў тым, што за ноч у роце збіраецца вялікая колькасць бактэрый. І таму чысціць зубы лепш за ўсё пасля сну. У кожнага з вас павінна быць асобная зубная шчотка. Трэба ўмець правільна падабраць яе. Шчотка павінна быць не вялікай, але і не вельмі маленькай, зручнай, такой, каб яна дакраналася да паверхні ўсіх зубоў. Таму купляйце шчотку з увагнутай паверхняй шчацінкі.

Як правільна чысціць зубы? Спачатку трэба прапаласкаць рот цёплай вадой, затым на мокрую шчотку нанесці зубную пасту ці парашок. Верхнія зубы чысцяць зверху ўніз, ніжнія — знізу ўверх. І гэтак 2-3 хвіліны. Затым зноў прапалашчыце рот цёплай вадой.

Паласкаць рот трэба кожны раз і пасля яды. Для самаачышчэння можна з'есці што-небудзь са свежай гародніны ці фруктаў (яблык, грушу, моркву, радыс і інш.).

Вельмі важна правільна харчавацца: рэгулярна есці фрукты, гародніну, яйкі, малако, не злоўжываць салодкімі і мучнымі вырабамі. Нельга разгрызаць зубамі арэхі, цукар.

Самае галоўнае — своечасова папярэдзіць захворванне зубоў. Калі ад гарачай, халоднай ці салодкай ежы ў вас, дзеці, з'яўляецца боль, адразу ж звяртайцеся да лекара. Абавязкова два разы ў год правярайце зубы ў стаматолага.

**Б. Малачур, стаматолаг.**

## РОЗНАЕ СА СПОРТУ

* ✲ *

Алімпійскі чэмпіён па бегу сярод хлопчыкаў у Старажытнай Грэцыі Палімнестар з Мілета больш двух тысяч гадоў назад быў пастухом, і яго штодзень трэніравалі козы, за якімі яму даводзілася бегаць. Непаслухмяныя козы так яго натрэніравалі, што расказваюць, быццам бы ён дагнаў нават зайца.

* ✲ *

Адзін з найлепшых спрынтэраў планеты, савецкі спартсмен Валеры Барзоў успамінае, што ў дзяцінстве яго трэніраваў сабака Тузік.

* ✲ *

Да рэвалюцыі ў Расіі жаночы рэкорд па бегу на сто метраў быў 13,1 секунды. Такі вынік цяпер пад сілу нават вучням.

* ✲ *

Самым маленькім па росце рэкардсменам па бегу на сто метраў быў амерыканскі негр Айра Мерчысон. Яго рост 152 сантыметры.

* ✲ *

Старажытнагрэцкі філосаф Платон называў кульгавым таго, чый розум і цела развіты неаднолькава. Сам ён быў цудоўным спартсменам. У Старажытнай Грэцыі многія вядомыя вучоныя і пісьменнікі былі і алімпійскімі чэмпіёнамі.



## Пішуць школьнікі



### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Я вельмі люблю звяроў і птушак. Стараюся ім дапамагаць зімой. Птушкам я зрабіла кармушку, і калі прыходжу са школы, нясу ім зерне, саланіну і акрушынкі. Я гляджу ў акно і цешуся, калі прылятае шмат птушак. Для звяроў корм у нас можна знайсці хутка. Я жыву на вёсцы. У карчах альхі, вярбы я кладу зайцам буракі, моркву, бульбу. Праз некалькі дзён я заглядаю ў гэтыя месцы і заношу ім свежы корм. Аб птушках, якія прылятаюць у маю кармушку, я склала верш.

### МАЕ ПТУШКІ

Каля дому драўлянага
Стаіць дрэва, як маляванае.
Адзета ў белы кажух
І ляжыць на ім мяккі пух.

Прылятаюць на гэтую грушку
Вераб'і і жаўтабрушкі.
Штодзень я выношу ім акрушкі
І сыплю патрошкі.

Гляджу я ў акно на птушак
І цешуся кармушкай.
А сёння я вельмі рада —
Зляцелася ўся грамада.

**Бася Дземянюк, Трашчоткі**



## Пазнаёмімся

* ✲ *

СССР, 346520, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Советская, д. 281, кв. 8. Рустенко Лене. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

СССР, 346506, Ростовская обл., г. Шахты-6, ул. Островского, д. 38, кв. 22. Мошкиной Наташе. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* ✲ *

СССР, г. Ростов-на-Дону — 53, пос. Мясникован, ул. Ленинокан-ская, д. 26а. Лубяновой Наташе. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* ✲ *

Аля Кардаш, вучаніца восьмага класа, в. Навасады 44, пошта 16-054 Ялоўка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Данута Салавей, вучаніца восьмага класа, в. Навасады 40, пошта 16-054 Ялоўка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Аня Кардаш, вучаніца чацвертага класа, в. Навасады 44, пошта 16-054 Ялоўка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Аня Павільч, вучаніца пятага класа, в. Навасады 49 а, пошта 16-054 Ялоўка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, 107143, г. Москва, Открытое шоссе, д. 23, корп. 7, кв. 100. Умнягину Алёше. Хлопчык вучыцца ў шостым класе.

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

— Пец累, ты чаму кветкі не паліў?

— Хацеў даведацца, як сябе адчуваюць расліны, што жывуць у пустыні Сахары...

* * *

— Данік, слухай, каб аўтамабіль быў шакаладны, якую частку ты спачатку з'еў бы?

— Колы, — не задумваючыся, адказаў Данік. — Тады ён бы ад мяне не паехаў!

* * *

— Калі тата даведаўся, што я атрымаў двойку, — расказвае Віця сябру, — дык адразу сказаў: „Даскакаўся!..“

— А ты хіба скачаш? Я думаў, што ты ў шашкі гуляеш...

* * *

— Уладзік, — пытаецца настаўніца, — хто за цябе рабіў дамашняе заданне?

— Не ведаю, — адказвае вучань. — Я вельмі рана спаць лёг.

* * *

— Каця вельмі добра ведае фізіку, — кажа Маня.

— Чаму ты так думаеш?

— Яна ніколі не разгортвае падручнік.

## АДГАДАНКА












*Уважліва разгледзь малюнкі і назаві прадметы, якія паўтараюцца на ўсіх чатырох малюнках.*

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**